# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР





11

1926

— Орган ЦК ЛКСМБ —
і Наркамасьветы БССР.



# СТАРОНКА ДЗІЦЯЧАГА КОРЭСПАНДЭНТА

## Чытачы аб сваёй часопісі.

### Ліст у рэдакцыю.

*(Друкуецца без паправак).*

Дарагія тав. рэдактары!

„Беларускі Піонэр“ мяне дужа зацікавіў па зьместу і спадабаўся па сваёй тэхнічнай апрацоўцы. Усё ж такі трэба указаць на некаторыя недахопы. Папершаму: *дужа кепска, што часопісь выходзе адзін раз у месяц.* Жадана было б каб яна выходзіла хаця адзін раз у два тыдні. Падругому: часопісь каштуе дорага і ня кожны піонэр мае магчымасьць яе пакупаць. Вот ўсё што я хацеў прыкмеціць аб недахопах часопісу. Цяпер наконт артыкулу, які я пасылаю ў рэдакцыю разам з гэтым лістам. Калі рэдакцыя мае магчымасьць, дык няхай яго памяшчаюць цалком, а калі не—дык кавалкамі.

У „Бел. Піонэр“ я пішу першы артыкул і спадзяваюся, што буду пісаць далей. Я хацеў-бы каб рэдакцыя мне выслала ліст, у якім гаманілась-бы: як і аб чым пісаць у „Бел. Піонэр“. Буду дужа ўдзячан!!!

С піонэрскім прыветам:

**Стронгін Хаім** (піон. 104 атр).

г. Барысаў.

### Пажадаем расьці і мацнець.

*(М-ка Леніна, 59 атр. імя Крупскай).*

Ад імя нашага атраду вітаю цябе, *„Беларускі Піонэр“, як родную, блізкую нам часопісь.* „Беларускі Піонэр“ у нас вельмі распаўсюджаны ды наогул у вёсцы ён вельмі каштоўны для вучняў і піонэраў.

Кожны сьвежы № нас вельмі радуе, а таму на зьвеньнях ды на агульных сходах мы чытаем і разглядаем яго.

Мы хочам, каб у кожным глухім кутку Беларусі чыталі і шырока распаўсюджвалі „Беларускі Піонэр“

Расьці, мацней, пашырайся наша часопісь „Беларускі Піонэр“!

Па даручэньню

**Кушалеўскі Г. П.**

## Што вырашыла конфэрэнцыя дзяткораў.

*(3-я Харкаўская агульна-гарадзкая конфэрэнцыя дзяткораў).*

Цэнтральны клюб перапоўнен народам. Мігаюць хустачкі, гальштукі... Чуюцца бадзёрыя галасы. Рань дзяткораў сабралася на трэцюю агульна-гарадзкую конфэрэнцыю (у г. Харкаве).

Зьбіраюцца ў вялікі пакой. Спачатку мала, пасьля—больш, а пасьля—у пакоі не зьмяшчаюцца. Нехаця трэба перайсьці ў залю.

Паселі і—ціха. За сталом сябра акруговага бюро тав. Немцава.

Яна вітае дзяткораў і зазначае: „Мы сабраліся тут абмяркаваць задачы піонэрскага друку, сувязь яго з чытачамі і якасьць заметак дзяткораў. Дазвольце конфэрэнцыю лічыць адчыненай“.

На павестцы дню два пытаньні:

1) Задачы дзіцячага друку;

2) Аб кутку друку ў цэнтральным клюбе „Юны Ленінец“.

Па першаму пытаньню выступае сябра ЦБ ЮП і рэдактар „Юнага Ленінца“ тав. Гурарыт:

— „Наўкола газэт організоўваюцца чытачы і корэспандэнты, з якімі газэта трымае сувязь, якіх яна сваім матар'ялам выхоўвае. Піонэрская газэта—гэта люстра жыцьця і працы піонэрскай організацыі, а таксама і неорганізаваных дзяцей.

Піонэрскі друк ставіць перад вамі пытаньне, што ў ім добрае, што кепскае і як выправіць памылкі“—канчае дакладчык.

Даклад, каб не забыцца, дзяткоры запісалі ў „Блёк-ноты“.

На стале цэлая куча пытаньняў: аб працы дзяткораў, як пісаць, чаму няма штодзённай піонэрскай газэты, чаму дарагая часопісь і г. д.

Дакладчык дае на ўсё кароткія здавальняючыя адказы.

Уносяць шмат прапаноў: палепшыць якасьць заметак, склікаць конфэрэнцыю чытачоў, пашырыць, за кошт матар'ялу дарослых, літстаронкі ў газэтах і часопісах, кіраўнічыя артыкулы пісаць на зразумелай мове і г. д.

Прымаецца рэзолюцыя.

Далей, сябра клюбсавета робіць інформацыю аб кутку дзіцячага друку ў Цэнтральным клюбе „Юны Ленінец“.

Па сканчэньні конфэрэнцыі удзельнікі яе мелі на мэце зьняцца, але не прычакалі фатографа і ўсе дэлегаты накіраваліся ў кіно.

Дзяткоры: **З. Біленко.** **В. Бычко.**

г. Харкаў.

## За паляпшэньне насьценных газэт.

Калі мы азнаёмімся з піонэрскімі насьценнымі газэтамі, дык убачым, што большасьць з іх маюць шмат недахопаў. Неакуратны выхад, кепскі зьмест, адсутнасьць працы з дзяткорамі і інш. зьяўляюцца амаль агульнай хваробай нашых насьценных газэт.

У некаторых мейсцах газэта выдаецца „ад сьвята да сьвята“. Так у 6-м раёным атрадзе (г. Менск) за 1926 г. газэта вышла ўсяго два разы: да дню першага мая і да МДТ. Зразумела, што адсутнасьць пэўнага тэрміну, праз які выходзіць газэта, шкодзіць таму, каб прывабіць да яе дзіцячых корэспандэнтаў, уцягнуць іх у творчую працу. Нам здаецца, што лепш усяго выдаваць газэту штомесячна.

Нам даводзілася наглядаць выпадкі, калі ў газэце прымала ўдзел невялічкая група (3-4 піонэры), якая сама запаўняла ўсю газэту.

Звычайна мы лічым, што галоўную ролю ў газэце адыгрывае яе зьмест. Практыка паказала, што тэхнічны бок (чытэльна напісаныя літары, добры загаловак, цікавыя малюнкі і г. д.) маюць ня меншае значэньне *).

Па нашай думцы, зьнішчыць адзначаныя заганы, палепшыць газэту ва ўсіх адносінах можна пры дапамозе гуртка дзяткораў, аб працы якога пісалася ў мінулым нумары. **І. Зэльцар.**

ЗЬМЕСТ.



*) Аб гэтым мы напішам у другі раз.

1-ая Дзяржаўная друкарня. Зак. № 493. Галоўлітбел № 22234.






УМОВЫ ПАДПІСКІ:
на 12 м. . . 1 р. 80 к.
на 6 м. . . — 90 к.
на 3 м. . . — 45 к.
на 1 м. . . — 15 к.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

№ 11. ЛІСТАПАД 1926 г.

# За пашырэньне сваёй часопісі.

Ня ўсе яшчэ піонэры ведаюць аб тым, што выдаецца дзіцячая часопісь „Беларускі Піонэр". Мне даводзілася быць у такіх піонэрскіх атрадах, дзе піонэры мала або і зусім ня ведалі пра сваю часопісь „Беларускі Піонэр", а атрады не маладыя ды к таму—гарадзкія.

А, вось, калі запытаешся ў піонэра, ці ведае ён жыцьцё іншых піонэраў, дык ён адкажа, што ня ведае і няма адкуль даведацца. Давайце разьбярэмся, ці правільна гэта?

Возьмем апошні нумар часопісі „Б. П." Там маецца аддзел: „Жыцьцё дзяцей ва ўсім сьвеце", дзе яскрава апісваецца аб тым, як піонэры нямеччыны праводзілі лагер; зьмяшчаецца ліст да дзяцей Савецкага Саюзу. Там-жа пішацца пра становішча дзяцей у Фінляндыі, дзе піонэры працуюць ня так вольна, як у Савецкім Саюзе. У артыкуле прыводзіцца вытрымка з фінляндзкай дзіцячай часопісі, якая яскрава высьвятляе працу дзяцей. Перад намі жыва намаляваны вобраз 10-х гадовага хлопчыка, Карла, які жыў толькі з маткай; жылі бедна, часта елі толькі хлеб з вадой. Усё-ж такі матка **выпісвае яму часопісь**. Карл бярэ аловак, паперу і ходзіць ад хаты і да хаты, зьбіраючы падпісчыкаў на часопісь. Так ён сабраў 10 чалавек. Потым арганізавалі піонэрскі атрад і да іх далучаецца яшчэ 200 чалавек дзяцей.

Так высьвятляецца праца замежных дзяцей у часопісі „Б. П." На такіх прыкладах можна і варта вучыцца і нашым піонэрам.

Зьмяшчаюцца заметкі таксама з жыцьця піонэраў Беларусі, дзе пішацца як і што робяць піонэрскія атрады, расказваецца як піонэры прарабілі тую ці іншую працу. Ёсьцьжа допісы, якія нічога не даюць нашым піонэрам. Бяру вытрымкі з апошняга нумару часопісі. Піша У. Сяньkоўскі... „бюро ячэйкі прызнала працу атрада нездавальня-



Вучаць урок.

ючай. Але, ня гледзячы на гэта, можна сказаць, што першае зьвяно працуе добра... на дысцыпліну трэба зьвярнуць вялікую ўвагу, бо іначай піонэры нашага атраду ня выканаюць задач, якія пастаўлены перад дзіцячай організацыяй".

Такімі агульнымі словамі апісваецца праца атраду. Вядома, што такія допісы не прынясуць карысьці.

Шмат ёсьць выпадкаў, калі часопісь зьяўляецца адзіным памоцнікам у працы піонэратраду. Піонэры па часопісі вучацца як працаваць. Такім чынам, піонэру трэба чытаць сваю часопісь, бо яна яскрава адбівае жыцьцё і працу дзяцей, вучыць як працаваць.

Піонэры любяць чытаць той допіс, артыкул, дзе добра апісваецца тое ці іншае здарэньне, вынікі яго, і як ухіліцца ад гэтага. Але піонэры яшчэ не навучыліся як і што пісаць у сваю часопісь.

Вось, за лепшы допіс, артыкул піонэрам і трэба павесьці шырокую працу. Часопісь сёньня яшчэ раз запытае піонэрскія атрады: як яны высьвятляюць канкрэтныя пытаньні працы як сярод піонэраў, так і неорганізаваных дзяцей? Напрыклад, ці пішуць піонэр-атрады аб тым, як пабудавана самакіраваньне ў якой-небудзь школе, як яно змагалася ў сваёй працы за чыстату ў школе, чаго дасягнулі і г. д. Ці пішацца аб тым, як форпост падлічваў пасьпяховасьць піонэраў у вучобе, чаму некаторыя з піонэраў адстаюць, якія гэтаму прычыны і што зроблена форпостам альбо атрадам для зьнішчэньня гэтых перашкод? Ці пісалася аб тым, як атрад організаваў майстэрню, альбо грамадзка-карысную працу, як праходзіла праца па організацыі гарачых сьнеданьняў у школе? і г. д.

Аб гэткіх пытаньнях пісаць яшчэ не навучыліся, а разважаць „агульнымі" словамі ўмеем.

Трэба вучыцца пісаць у сваю часопісь. Трэба, каб зьмешчаны артыкул мог даць якую-небудзь карысьць для іншых атрадаў у іх працы.

Нельга пахваліцца нам і тым, што наша часопісь шырока распаўсюджваецца. Гэта залежала часткай ад таго, што часопісь не акуратна выходзіла, дорага каштавала і некаторы матар'ял быў непрыстасаваны для дзяцей. Галоўная-ж бяда была ў тым, што ніхто ня думаў, каб распаўсюджваць часопісь, піонэрскія атрады не клапаціліся аб гэтым.

Нядаўна даклад рэдакцыі быў заслуханы на бюро ЦК комсамола і на Сэкратарыяце ЦК Партыі, дзе вынесены прапановы, каб часопісь перавесьці на двухтыднёвае выданьне, зьменшыць кошт падпіскі да 15 кап. у месяц, правесьці кампанію па распаўсюджваньню часопісі.

Кампанія за пашырэньне падпіскі праводзіцца з 15-га лістапада па 5-е сьнежня.

Што павінен зрабіць атрад у час гэтай кампаніі? Аб гэтым ужо матар'ял друкаваўся ў „Чырвонай зьмене". Заданьнем і справай кожнага атраду павінна быць—гэта сабраць найбольшы лік падпісчыкаў на сваю часопісь, прасунуць часопісь у школы.

Піонэрскі атрад павінен знайці найлепшыя формы для найлепшага распаўсюджваньня часопісі. Я ведаю некаторыя атрады, якія спэцыяльна наладжвалі сумесна са школай платныя вечары і за грошы таго, хто купляў білет выпісвалі яму часопісь. Чаму-б іншым атрадам не зрабіць так? Часопісь паляпшаецца, але для яшчэ большага посьпеху ў гэтай працы патрэбен сталы ўдзел усёй піонэр-організацыі і неорганізаванай дзетвары.

Патрэбна жаданьне атраду і школы распаўсюджваць часопісь, пісаць у яе, зацікавіць сваіх братоў, бацькоў, дарослых тым, што дзіцячая часопісь „Беларускі Піонэр"—для дзяцей неабходная рэч.

**А. Пякарчык.**






# Эля—піонэр.

I

Пунсовае полымя вішнёвых садоў улівала ў грудзі мястэчка пах салодкага мёду. У грудзі Элі шырокімі цёплымі хвалямі ўлівалася вясна. І гэтыя цёплыя хвалі вясны, цёплыя яе словы прымусілі Элю бегчы да ракі, дзе ён сеў у цяньку пад кудлатай вольхай і задумаўся, гледзячы на срэбную істужку ракі, якая з ціхім напевам каціліся між зялёных берагоў.

— Так, усьміхайся, рака, і жартуй разам з ветрам! Ты вольная, ты магутная, а я?..

Ён упарта цяпер парашыў, што даволі ён трымаўся, больш ён ня хоча ўступаць бацькам. Ён запішацца ў піонэрскі атрад і запішацца як мага хутчэй. Што яму бацька?—будзе лаяцца, будзе біць, ну, і хай сабе б'е,—Эля будзе піонэрам усёроўна!

З гэткімі думкамі Эля скінуў з сябе вопратку і палез у рэчку. Ён купаўся, а навокал пела, сьмяялася і заклікала да сябе вясна.

II

Шэрыя хаты мястэчка хаваліся ад сонца пад шырокімі лапамі яблыняў і вішняў. Сьляпыя вокны гэтых курных хат няласкава паглядалі ў даль. Бацька злосна ўставіўся ў твар Элі і пытаў:

— Дзе ты быў, лайдак?

— Купаўся...

— Купаўся!.. Мне на кірмаш трэба, а ён купаецца!—і бацька, дастаўшы кошык, дабавіў:—Глядзі-ж наглядай за хатай.




Эля застаўся ў хаце адзін. Ён выцягнуў нумар часопісі **„Беларускі Піонэр“**, пачаў чытаць і не заўважыў, як зьвярнуўся бацька. Эля хутка схаваў часопісь у кішэню. Але бацька заўважыў...

III

Шабас... Бацька пайшоў у сінагогу, матка да суседкі. У хаце засталіся толькі Эля, ды яго дзед Шэбсэль Эйзэр.

Ціха яны сядзелі. Раптам у хату ўвайшоў Іцка, што прыносіў яму газэты і часопісі.

— Добры дзень!—сказаў ён.

— А, гэта ты, шэйгэц?! чаму маліцца не пашоў?

— А Эля чаму?

— Яму нешта галава сёньня баліць.

Пры гэтых словах дзеда Эля нясьмела запытаў:

— Ведаеш, дзядуня: я пайду трохі на вуліцу. Можа галава тады перастане балець...

— Ідзі!

IV

Ішлі па вуліцы. Іцка запытаўся:

— Пойдзем, Эля, сёньня на збор атраду?

— Хадзем!

І пайшлі.

У клюбе КІМ'а было радасна і сьветла, як на прасторах самой вясны. Звонкі, бадзёры сьмех піонэраў. Чырвонае мора гальштукаў. Прывольныя, маладыя песьні. У Элі дрыжалі рукі і калені. Сэрца моцна і трывожна стукала. Вясна была навокал. Навокал усё паўтарала: „Эля—піонэр“!

V

Адбываўся савет атраду, зачытвалі заявы, дайшлі да Элі. Павадыр чытаў:

„Я хачу быць піонэрам... я ведаю іх мэту. Ведаю ўсё, таму і хачу быць піонэрам... Бацькі ня пускаюць, але ўсё-ж такі, калі магчыма, залічэце мяне піонэрам“.

— Ну, хлапцы, як?—запытаўся павадыр.

— Давай!..

— Хто за?

— Усе!

Як раней, шэрыя хаты мястэчка купаліся ў пунсовым полымі вішнёвых садоў. Як раней, яго стары дзед чытаў, такі-ж, як ён, стары талмуд і, як цяпер, Эля сьмелым і радасным сядзеў за чытаньнем свае часопісі **„Беларускі Піонэр“** і вучыў законы і звычаі.

**Ул. Палякоў.**




**НАШ ЛЁЗУНГ:**
**НА КОЖНАЕ ЗЬВЯНО „БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“**

**Верш Я. Коласа.**

*МАЛЮНКІ А. ТЫЧЫНЫ.*

I

Вось што, дзеткі, мае краскі:
Што хадзіць за многа міль?
Можа лепей замест казкі
Расказаць вам адну быль?
Ну, дык вось.
Зваўся хлопчык наш Савось.
Ой, і быў-жа ён дурасьлівы!
У сад лазіў па грушы, па слівы,
Дзіркі ў градах рабіў—
Моркву сьціброць любіў
І маку ён скручваў галоўкі,—
Ну, на гэта быў страх які лоўкі!
А рукі ў яго ня мыты,
Нос не абцёрты,
Абшарпаны, абдзёрты,
А сам ён сярдзіты,—
Такі задзірака,
Такі забіяка,
Буян,
Грубіян!
Зачэпіць старога,
Пакрыўдзіць малога.
Такі ўжо нягоднік
Ды гэтакі шкоднік!
Бегаў загуменьнямі,
Кідаўся каменьнямі,
Пападаў у шыбы,
Хоць гані з сялібы!
Меў на зло сьмякалку:
Зьніме з вежы галку.

II

У Савосева суседа
Быў пярэсьценькі каток,
Выхаванец Паўла дзеда,
Такі слаўны пястунок!
Нос чарнявы,
Хвост бялявы,
Задзірасьценькі,
Кіпцік-шчыпчык
Заграбасьценькі,
Лапкі-драпкі
Машастовыя,
А шарсьціначкі
Шаўковыя,
Губкі, зубкі
Адмысловыя,
Вусы русы патарчастыя,
Тая сьпінка, як націнка
Выгінастая,
Вушкі-слушкі
Ня мыляюцца,



Беларускі Народны поэта **Якуб Колас.**
У гэтым месяцы споўнілася роўна 20 гадоў
яго літаратурнай і культурнай дзейнасьці.



Вочкі ў ночку
Запаляюцца.
Хадзіў коцік пад масток,
Лавіў рыбку за хвасток.
Потым дзеду ён на печы
Казкі-байкі варкаваў,
Белым хвосьцікам да рэчы
Такты сьпевам адбіваў.
Коцік з дзедам жылі ў згодзе,—
Не сварыліся за печ.
Быў раз коцік на паходзе,
На мышэй падняў ён меч.

Шоў каток з паходу,
Разагнаўшы мышак,
І сеў на калоду,
Пад страху ў зацішак.
Грэе сабе сьпінку,
Мордачку і лапкі.
Зірк—Савось з будынку
Выскачыў бяз шапкі!
За Савосем—Рудзька!
„Кусі ката, цюцька!“
Коцік бедны ўвесь жахнуўся,
Ды на шчасьце быў тут плот,
А пры плоце дуб, і кот
Толькі фыркнуў, мільгануўся
І на дубе апынуўся.

Не ўдалося Савосю
Катка падкусіць
І прышлося Антося
На помач прасіць.

III

Вось Савось
І Антось
Сталіся дружакі.
Каля клуні стаяць,
Штось ліхое таяць,
Радзяцца, вужакі,

Як злавіць ім катка,
Каб спусьціць з малатка
Рудзьку на расправу!
Падшывальцы-ж яны!
І іх розум дурны
Выдумаў забаву!
А па той нарадзе
Саўка торбу крадзе,
Анцік—хлеб сабаку.
А каток на печы
Сеў, як той старэчы,—
Яму і ня ў знаку!

Эх, пярэсьценькі каток!
Сьцеражыся ты, браток!
Не хадзі ты па надворку,
Не хадзі гуляць за горку:
Там бяда цябе чакае,
Сам ня ведаеш, якая!
Асьцярожненька хадзі,
За Савосем ты глядзі,
Бо Савось замысліў штось,
Не здарма з ім і Антось!
Затаіўся ў кутку
Наш Савось і катку



Сеў каток
На дубок,
Кажа забіякам:
— „Эх, Савось-шалапай!
Ты мяне не чапай
І ня скуй сабакам!

Замаўляе зубы
Для кацінай згубы:
„Ах ты, коцічак мой!
Які файны ты, ой!
Што за сьпіначка!
Ну, карціначка!
Ідзі, коцік, да мяне,
Не пакрыўджу, ой, не-не!
Пойдзем пагуляем
За зялёным гаем...

А якія вочкі!
Бачаць сярод ночкі.
А якія лапкі
Ды як яны цапкі!
Ах, ты, мой каточак
Чорненькі насочак!
Ідзі, коцік, да мяне,
Не пакрыўджу, ой, не-не!
Я пагладжу сьпінку,
Мяккую шарсьцінку"...
Яўкнуў коцік, выгнуў сьпінку,
Хвост падняў, як корбу,
Але ў тую-ж хвілінку—
Шусь каток у торбу!

IV

І панесьлі катка ў поле,
А там чыста, ні кусточка,
Ні хваінкі, ні дубочка,
Адны межачкі ды ролі.
Няма дзе катку схавацца:
Чуць сінее лес далёкі,
А сяло за тры валокі—
Як-жа коцю ратавацца?
Плача ў торбе коцік, плача:
„Мяў, мне душна! Мяў, мне цесна!
Б'ецца сэрцайка балесна,
Бо мне грозіць сьмерць, ня йнача!".
Кот бурчыць і гурчыць,
Лапамі дзярэцца,
А Савось хоць-бы што —
Цешыцца, сьмяецца.
— Ну, спыніся, Антось,
Прытрымай сабаку,
А як коціка пушчу—
Скуй тады ў атаку.—
Адышоўся Савось,
Анцік прыпыніўся,
І тут коціку астрог
Раптам адчыніўся.
З торбы выскачыў, прысеў —
Трэба разглядзецца...
Ой, там Рудзька! Што рабіць?
Дзе катку падзецца?!
— Скуй! пускай! крычыць Савось.
— Кусі ката, Рудзька!..
А чаго-ж там закрычаў
Савось так нялюдзка?
Глянуў Анцік—вось дзівота,
Вось дзе ліха, вось бяда!
Што зрабіла ім дурота!
І што сталася з ката!

Вось папаліся дзе змоўцы,
Проста шкода малышоў!
На Савосевай галоўцы
Коцік спасеньне знашоў!
Лемантуе бедны Саўка,
Ашалелы, чуць жывы:
Кот упіўся, ну, як п'яўка,
І ня зьнімеш з галавы,
Запусьціў капцюр у скуру
Аж да самае касьці.



Кот упіўся, ну, як п'яўка,
І ня зьнімеш з галавы...

Скача Саўка з таго дуру
І крычыць: „Пусьці! пусьці!
Рудзька верціцца навокал,
Брэша, цопае катка...
Ах, Савоська, ты, мой сокал!
Справа дрэнна і брыдка.
Ой, нагараваліся,
Ой, бяды набраліся
Хлопцы з тым катом!
З поля як вярталіся,
Людзі з іх сьмяяліся,
Тыкалі пярстом.
Шоў Антось паперадзе,
Рудзьку вёў на прывязі,
Пазіраў уніз,
А Савось на вотшыбі
На галоўцы з коцікам
І шаптаў — кіс! кіс!
І хоць ён ня піонэр,
А чырвоны меў каўнер.

**Якуб Колас.**

21-X-1926 г.

# Разумная бабуля

*(П'еса на 2 дзеі*).*

**Прымаюць удзел.**

1. ЦІМОХ—селянін, 45 гадоў.
2. ПАЛАДЗЯ—яго жонка, 40 гадоў.
3. БАБА—яго матка, 75 гадоў.
4. МАРЫСЬКА—яго дачка, 13 гадоў.
5. ГРЫПІНА—удава, хворая на сухоты, 40 гадоў.
6. ВОЛЬКА—яе дачка, 14 гадоў.
7. ДЗЕД—начны вартаўнік, 60 гадоў.
8. ПОП—50 гадоў.
9. НАСТАЎНІЦА—22 гадоў.
10. ПЯТРУСЬ—13 гадоў.

Шмат вучняў—хлапцоў і дзяўчат.

**Дзея 1-я.**

Дзея адбываецца на вёсцы ў 1921 г. Вечарэе. З правага боку відаць Цімохава хата, з левага—Грыпініна. Баба сядзіць на зямлі ля сваёй хаты і трэ штосьці ў місцы.

Зьява 1-я.

Баба. З глузду людзі пасходзілі ды й канец... Трэба-ж думаць, людцы мае,—за навуку ўсе ўзяліся! Ох, ох, ох, ліхая гадзіна настала! Усё школы да нечага адчыняюць. Мала ім было аднае—на якую трасцу нам і гэта эдалася! Дык вось яшчэ і ўвечары пачалі вучыць... Ох, ох, ох, ліхая гадзінка настала!

(Паладзя выходзіць з свае хаты і йдзе да Грыпінінай).

Паладзя. Ды выдзі-ж, суседачка! Выходзь, мілая—пабалакаем!

Зьява 2-я.

(*Грыпіна вышла з хаты, села на ўслоне і закашлялася*).

Паладзя. Ї чаму так, суседачка, вы нас цураецеся? І жывем-жа мы пасуседзтву, а, падумаць—адна адной цураемся.

Грыпіна (*вяла*). Усё не зьбяруся, суседачка... Ды й ня дужая, не здаровіцца ўсё. Не зьбяруся ніяк, каб гэта, як людзі, і выйсьці, і пагутарыць, і тое і гэтае. Думкі, любачка, абхінулі мяне: пра Вольку усё думаю, пра дачку сваю адзіную. На каго я яе пакінула?

Баба (*асыкавата*). Вось бачыш, сама чуць жыве, як той кажа, а дачку ў гэту вячэрнюю школу выштурыла. Нашто-бо яно дзяўчатам вучыцца? А твая ды нашу, вунь, з толку зьбівае.

Паладзя. Рады не магу даць, што рабіць і што казаць. Ї што гэта, суседачка, цяпер за школы пашлі? Раней было, дык дзіця туды і пугаю не загоніш, а цяпер—ня пускаеш, а яно табе ровам раве.

Баба. Што раве, то нічога. Можна і лякарства знайсьці ад такой хваробы: як дасі добра дубцом—сьціхне!..

Паладзя. Дык я, вось, і хачу параіцца. Можа-б мы й ня пускалі. Навошта яно ім шмат вучыцца. Вось, ня пускайце вы, суседачка, свае, дык і наша сьціхамірыцца. А то, людцы-ж вы мае...

Грыпіна. Вось паслухайце мяне дурную, што я вам скажу! Ня трымайце-бо вы дзяўчыны дома! Хай ходзіць, вучыцца! Хіба навука есьці прасіць будзе ці яе за плячыма трэба насіць? Цяпер такое жыцьцё пашло, што няпісьменнаму ды неразумнаму дык і не пражыць. Вось чаму і школы адчыняе савецкая ўлада, вось чаму і вучыцца ўсім трэба... Дзіця-ж у школе розуму, жаначкі мае, набярэцца...

Баба (*сярдзіта*). Набярэцца, набярэцца... Распусьціла сваю... І цябе, мабыць, туды нячыстая падцкоўвае. Жыла-ж калісьці ды бацькоў слухалася, а цяпер... Цяпер падумайце толькі, людцы вы мае хрышчоныя, як пачну, вось, гэта ёй што небудзь казаць, дык яно табе й зубы выскаляе.

Грыпіна. Калі ды талковае—ня выскаліць.

Баба. Якая ты дужа разумная!

Паладзя (*палахліва, убачыўшы папа, які ідзе за яе мужыком*). Бацюшка, бацюшка, вунь, ідзе праз вуліцу. І мой старэнькі, бачыце, з ім. (*Стаяць з бабаю ў баку і кланяюцца папу. Грыпіна сядзіць на сваім мейсцы*).

Зьява 3-я.

Поп (*палахліва азіраючыся*). Все эти советския школы, Тимофей, только навождения д'явольские.

Баба і Паладзя (*усё яшчэ кланяюцца*). Драстуйце, бацюшка!

Поп (*кінуў на іх погляд, а сам да Грыпіны*). А ты што-ж, Гарпіна, не кланяешся, а? (*паўза*). О, да-да я знаю, знаю! Ты языка своего навострила. У товарышей пример бярешь, дочь свою, Волечку, в церьковь не шлешь, а в эту самую школу.

Паладзя. І што ўжо, бацюшачка, на гэта й казаць! Гэта ж і наша нема крычыць, каб у тую школу хадзіць.

Бацька. Кхе... кхе... І што яно цяпер за школы, што дзяцей так і цягне туды.

Поп. А вы не пускайце! Да, да, не пускайте туда детей! Раньше мы им воспитание давали. Было, знаете, і за ушки немножко драли, и об скамейку лобиком стучали, на колени в угол на жорству ставили, а сейчас какое это учение! Их по головке гладят, учат ораторствовать. Да, да, да. Танцуют, распевают, бога забыли. Не пускайте, не пускайте туда детей. (*Пашоў*).

Бацька (*кланяючыся*). Прашчайце! Дзякуем-жа вам, бацюшачка!..

Баба (*да Грыпіны*). О, чула, чула! І што гэта за разумная галава ў нашага бацюшкі, проста-ж табе лысіна дык праз усю галаву розумам сьвеціць.

---

*) Пераклад з украінскай мовы.

Грыпіна. Слухайце, слухайце папоўскай праўды дык, напэўна, паразумнееце! То-ж яно ўсё раней у іх руках было, а цяпер, бач, як лаюцца. Ох, гораныка нам, цёмным і неразумным! (*Пашла да хаты*).

Баба. О, дык ты адна на ўсю вёску, выходзіць, такая дужа разумная! Бачыш, як сваю дачку распусьціла! (*Пашла да хаты*).

Бацька. Кхе... кхе... Ну, што-ж, старая, хадзем вячэраць, або што (*пашоў*).

Паладзя. Ох, галованька ты бедная! (*Пашла да хаты*).

Зьява 4-я.

(*Пятрусь з школьнікамі прабягаюць па вуліцы*).

Пятрусь. Марыся!.. Марыс-я!.. Хадзем у школу!

Дзяўчына. Нават і ня гукай, бо ўсёроўна ня пусьцяць. Хіба гэта людзі? Цьфу!..

(*Усе пабеглі, весела сьпяваючы якуюсьці песьню*).

Зьява 5-я.

Марыся. Мамачка, галубачка, ну, пусьці мяне ўжо хоць сёньня! Я хаця папрашчаюся з усімі!

Паладзя. Умееш чытаць, ну й будзе з цябе, а ты яшчэ нейкую трасцу выдумляеш. Вучыцца зажадала. Будзе з цябе!.. Будзе!..

Марыся (*плача*). Ох, мамачка, навошта-ж гэта вы мне кажаце? Хіба-ж гэта дрэнна, калі вучыцца і ўсё ведаць? Я-ж вас так прашу! Няўжо-ж у вас сэрца няма?..

Паладзя. Бачыш, якая языкатая! Мы калісьці так з бацькамі не сябравалі і не балакалі, як ты, вось, са мною.

Марыся. Мама, тады-ж іншыя часы былі. Тады скрозь няволя была, слова баяліся сказаць, казалі ўсё, што Ільля прарок вунь па небе едзе, калі гром ды бліскавіца надыходзіла. Мала чаго было там у вас раней...



А вы не пускайте!
Да, да, не пускайте туда детей!

Зьява 6-я.

Баба. Бі яе ў шыю, такую разумніцу, бачыш, што брэша сваім дурным языком. Бачыш якія гішэфты з тою савецкаю школаю завяла! Цяпер-жа толькі дурні вучацца...

Марыся. Якая я няшчасная. (*Рашуча*). Не, чуеце, не! Хату сваю хачу забыць, усіх вас хачу забыць, а быць там, дзе мае думкі. Я і цяпер уся там, тут для мяне толькі турма, пакута...

Баба. Ох, ліханька! Ой, матачкі мае! Паладзячка, па патыліцы яе ды да хаты, па патыліцы! (*Штурхае яе да хаты і йдзе сама з ёю*).

Баба. Ох, дочка мая! Вось дык ліха! Вось як цяпер язык гостраць у школе! Трэба-ж замкнуць хутчэй, а то яшчэ, чаго добрага, уцячэ! (*Замыкае за сабою дзьверы*).

Зьява 7-я.

(*Нейкі час ціха. Сьцямнела. Недзе далёка сьпяваюць дзяўчаты—„Ой ляцелі гусі". Пад канец сьпеву выходзіць на вуліцу дзед—вартаўнік і, спыніўшыся на вуліцы, слухае канец песьні. Песьня замірае. Нейкі час ціха. Песьню сьпявае салавей*)

Дзед. Кхе-х, вось так табе ўсё й заціхла! А салавей сваю справу ведае. Ну, дзеду, трэба й табе ведаць сваю справу... Вартуй!... Бразгай!.. (*Бразгае. Ідзе далей*).

Зьява 8-я.

(*Волька вышла на панадворак, задуменна паглядае на неба, а пасьля глыбока ўздыхае*).

Волька. Якая цудоўная ноч! Як весела!.. Які цудоўны сьвет... вялікі-вялікі, ды яшчэ й бязьмежны... Паклічу Марысю (*Ідзе да вакна і ціхенька стукае*). Марыся, Марыся!..

Зьява 9-я.

*Марыся вылазіць праз вакно, дрыжачым голасам прыгаварваючы: „Волячка, Волячка"... Яны абняўшыся сталі пад дрэвамі.*

Марыся. Волячка... Волячка... раскажы, расказвай-жа, што сёньні казалі.

Волька. Дзівіся, якое неба!.. адны зоркі... Дзівіся, дзівіся, як вунь паляцела... а тая вунь, Марыська, ня зорка, а плянэта.

Марыся. Волячка, на агародзе ты мне ўсё-ўсё раскажаш, як будзем капаць. Праўда-ж, мілая?...

Волька. Так, я тады ўсё-усё раскажу... Усё дачыста. А сёньня пра цябе загадчык пытаў. Казаў, што заўтра сам сюды прыдзе, або настаўніца.

Марыся (*радасна*). О, якая-ж гэта радасьць! Ну, цяпер буду я вольнаю птушкаю! Волячка, цяпер мы ізноў будзем разам вучыцца! Разам мы жывем, разам працуем і разам вучыцца будзем!

Марыся. Разам, Волячка, разам! Кінем гэтую турму і ўцячэм. Хіба мы ня знойдзем сабе дзе-небудзь лепшага жыцьця. Цяпер, Волячка, воля, дык будзем шукаць сабе і долі!

Волька. Ой, сумна і радасна! А каб ты ведала якую я песьню сёньня ад настаўніцы вывучыла! Ды, мабыць, лепш заўтра засьпяваю, бо як прачнуцца гэтыя твае, будзе тады мне.

Марыся. Волька!.. Галубачка... Ты толькі так ціхусенька-ціхусенька... Прашу цябе... Я-ж так люблю слухаць песьні... Ідзі... Ідзі сюды... Ну-ну, ну пачынай... Пачынай...

(*Волька сьпявае даволі сумным мотывам „Ой ляцелі гусі". Марыся прытулілася да Волькі, плача. Пачуўшы песьню вышла з хаты Грыпіна, стаіць у дзьверах і слухае песьню дачкі*).

*Заслона.*

**Дзея II-я.**

Зьява 2.

Дзея адбываецца адвячоркам. Убраньне сцэны тое-ж самае. Прышлі з агароду Цімох і Паладзя і, паставіўшы рыдлёўкі ля хаты, пашлі ў хату.

Выходзяць з рыдлёўкамі Волька і Марыся.

Марыся. Вось, Волячка, колькі-ж мы перакапалі сёньня, а нават і ня ўтаміліся. Няшкодзіла-б,

павячэраўшы, схадзіць да школы, каб і розуму даць працу. Як-бы добра гэта было! Дык не!..

Волька. І перакапалі і перагаварылі ўсяго колькі! Ну, Марыська, мацуйся! Сёньня цябе будзем ратаваць.

Марыся. Ды я ўжо й не прашу іх! Кінула ўжо і плакаць. А толькі іншы раз, калі злосьць мяне спануе, вазьму і пачынаю, вось, на тую сваю „разумную“ бабулю лаяцца. Вось-жа ведаю, што нядобра, ды хіба-ж я вінаватая, яны-ж бо, такія бацькі, самі даводзяць да гэтага. Я-ж ня йду ў дзень да школы, я ім усё зрабіла, я-ж толькі ўвечары прашуся на гадзінку, ды й на гэты час ня пускаюць... У-у-у... Ліхія ды цёмныя...

Волька. А мая мама дык сама мяне выпраўляе.

Марыся *(успомніўшы)*. А, учора, учора што было, Волячка! Я й забылася аб гэтым табе расказаць. Прынесла папа сюды. *(Перадражнівае)*. „Ня пускайце, ня пускайце... да-да-да... Лобиком стучали“...

Зьява 2.

Баба. Ну, ну, распусьціла свой дурны язык. Марш вячэраць! А ты, лыхта, ідзі й не мароч галавы ёй.

*(Марыся йдзе да хаты, за ёю баба. Волька, сьмлючыся, таксама йдзе да хаты).*

Зьява 3.

*(Пятрусь і школьнікі бягуць ля хаты і крычаць: „Дзяўчаты, хадз-ем!“—бягуць далей).*

Зьява 4.

*(Уваходзіць Грыпіна і Волька).*

Грыпіна. Ідзі-ж, дачушка! Ідзі, ды вучыся, маё дзіцятка!... Розуму набірайся, мая ты любая...

Волька. Я йду, мамачка! *(пабегла)*.

Грыпіна. Ох, ліха маё, ліха!.. Што з ёй будзе?... Хворая я стала... тры чвэрці да сьмерці мне засталося. Ох, дачушка, дачушка... *(пашла да хаты)*.

Зьява 5.

*(Марыся выходзіць з хаты і моўчкі ходзіць па двары, дзівячыся на неба).*

Бацька. Кхе... кхе... Пайсьці ў клуню хіба легчы ці што? *(Да Марысі)*. Чаго тут швэндаесься? Марш адсюль зараз-жа да хаты! *(пашоў)*.

*(Марыся ходзіць нейкі час яшчэ па двары, пасьля спынілася і пачала сьпяваць тую-ж самую песьню, якую ўчора сьпявала Волька).*

Зьява 6.

Баба. Чаго ляпу сваю разявіла? Спаць ідзі! Вочы на неба вытарашчыла ды зоры лічыш, ці што? Гэта-ж душы праведныя зьзяюць на небе. Грэх так на іх вытрашчаць вочы.

Марыся *(спакойна)*. Ага-ж душы... Толькі вашай там не хапае!

Баба. Вось аб тое-ж, што не хапае...

Марыся *(сама да сябе)*. Вось тая... тая, якая спакойна сьвеціць—гэта, мусіць, плянэта. А, вунь, тая, якая так цудоўна мігаціць, тая—зорка... І ўсё так круціцца, круціцца...

Баба. Дурніца! Гэта ў тваёй галаве круціцца.



Ідзі. Марыська, вучыся...

Марыся. Няхай, няхай сабе і ў галаве, а, вось, у вас дык і галавы няма!

Баба *(палахліва хапаецца за галаву)*. Ох, маё ты ліха! Што-ж гэта яна? *(плюе)*. Цьфу, цьфу, цьфу на цябе, дурніцу! Бачыш, як сваю бабу паважае. Пашла да хаты, бо ўсёроўна ў школу ня пушчу, і ня пікнеш ты ў мяне!

Марыся *(моцна)*. Гэтага ня сьмейце! Не падступайце да мяне! Буду зараз на ўвесь сьвет крычаць! *(крычыць)*. Эй, людзі добрыя, людзі разумныя, злавіла мяне Баба-Яга, закавала ў кайданы ды й трымае мяне пад дваццацю замкамі, сонца не дае мне бачыць!..

Баба. Ой, ліха мне! Ох!.. Ох!.. З глузду зьехала дзяўчына! *(Паварачваецца да хаты і крычыць)*. Паладзя! Паладзя, заві сюды людзей!.. *(Марыся села на ўслон і сьмяецца)*.

Зьява 7.

*(Паладзя выбягае з хаты).*

Паладзя. Што тут сталася? Зноў Марыся...

Марыся. Ды я-ж, мама, толькі сьмяюся. Няўжо мне ўжо й сьмяяцца ня можна?

Баба. Цьфу... аж палягчэла... ад сэрца адлягло, яна такі пры сваім розуме, а я падумала, што ўжо рэхнула...

Марыся. Ды хіба-ж, вось, такія разумныя бабулі не давядуць да гэтага?

Паладзя. Ану, не мялі пра мяне языком! (*Здалёк чуваць сьпеў, які хутка набліжаецца, а пасьля крык дзяцей. Гэта бягуць дзеці-школьнікі, сьпяваючы „Чачотачку“*).

Баба. Ох, матачкі мае, цэлы вырай прэцца. Гэта-ж сюды! Трэба хутчэй зачыніць фортачку. (*Бяжыць, але ў гэты час на панадворак убягаюць дзеці—Пятрусь і іншыя школьнікі*).

Зьява 8.

Баба (*крычыць на іх*). Куды гэта вас ліха нясе, га?! Вон з майго двара!.. Зараз-жа вон!

Пятрусь. Вунь, настаўніца йдзе!

Баба. Што мне ваша настаўніца! Вон, пакуль дручка не ўзяла!

Зьява 9.

(*Уваходзіць настаўніца і школьнікі, пасьля бацька*).

Настаўніца Добры вечар, людзі добрыя! Я-б хацела пагутарыць з гаспадаром.

Бацька (*выходзіць з хаты*). Кхе... кхе... Ды я, вось, тутачкі, кхе... Заходзьце-ж, дзякуй вам, да хаты. (*Ідуць, а за імі Паладзя*).

(*Дзеці стаяць колам, дзе ў сярэдзіне сядзіць Марыся й Волька, і весела працягваюць сьпяваць тую-ж самую „Чачотачку“. Баба стаіць з боку і зьбянтэжана дзівіцца на ўсё гэта, прыказваючы:—„Ох, матачкі-ж мае!.. Ах, ліханькі-ж Што-ж гэта робіцца на гэтым сьвеце?!.“*).

Марыся (*скончыўшы песьню, вылазіць на сярэдзіну і крычыць*). Слухайце я вам з вялікай радасьці верш прадэклямую. (*Дэклямуе любы рэволюцыйна-дзіцячы верш*). А што, добра, Волячка?.. Ну, а цяпер скакаць будзем, дзяўчаткі, скакаць!.. Ой, як-жа весела стала! (*Пачынаюцца скокі, якія цягнуцца аж пакуль ня выйдуць з хаты настаўніца з бацькам*).

Зьява 10.

(*Выходзіць бацька, настаўніца і Паладзя*).

Настаўніца. Так, вось такая-то справа, Цімох Пятровіч.

Бацька. Дзякую вам... Хай ідзе, хай ходзіць... Нам такога тут было нагаворана... Ды яшчэ, сказаць усю праўду, і поп падбрахаў. Дзякую-ж вам! Ідзі, Марыська, вучыся. Ды ня бойся там, ды настаўніцы, глядзі, слухайся.

Баба (*не сваім голасам, разьняўшы рукамі, нібы жадаючы злавіць Марысю*). Як?!.

Марыся. Татачка, мамачка, дзякую-ж вам! Цяпер буду я вас слухаць, буду вас любіць! Волячка, ці ня сон гэта? (*Да настаўніцы*). О, якая-ж радасьць! Як мне і аддзякаваць вам?

Настаўніца (*прыхінаючы да сябе дзяцей*). Хадзем, хадзем ужо, дзеткі! Бывайце! (*Школьнікі, весела сьпяваючы, выходзяць, бацькі кланяюцца*).

Баба. Што-ж гэта такое, га? Што-ж гэта такое?.. Што, падурэлі, ці што?.. Што гэта вы, у пекла захацелі?..

Бацька (*сярдзіта*). Кхе... ужо маўчы, вось. Ты ўжо аднэю нагою на тым сьвеце стаіш, а ёй яшчэ жыць трэба!.. (*Пашоў да хаты, а за ім і Паладзя*).

Баба (*хліпае*). Што-ж гэта... Што-ж гэта такое?.. Не ўсьцярагла!.. (*Плача*). Не ўсьцярагла... А я-ж думала, што ўсьцерагу ўнучку ад гэтай новай напасьці, а за гэта... мая душачка на тым сьвеце яснаю зоркай на ўвесь сьвет зьзяла-б... Аж яно... аж прышоў канец сьвету... (*Галосіць*).

*Заслона.*

**В. Мурынец.**

## Гэта нам.

Нас мільёны... Мы інакшай,
Лепшай долі кавалі.
Гэту долю, гэта шчасьце
Нам крывёю здабылі.

Хто сказаў, што мы прысталі,
Што няма ў нас гарту, сіл?
Яркім полымем запалім
Аксамітны небасхіл.

Гэта нам шапоча казкі
Сінявокі небазвод,
Гэта нам ківаюць краскі
Раскудравай галавой!

Гэта нашай юнай раці,
Поўнай прагі і красы,
Шлюць паклоны сенажаці
І зялёныя лясы.

Гэта нам сьпявае гымны
Буйны вецер у лісьці:—
Мы, адважныя, ня згінем,
Пераможам у жыцьці!

Мы ня згінем! Песьняй—лавай
Закрынічым у палёх...
З намі сіла! З намі права!
З намі доля! З намі лёс!

Піонэр **Юлі Таўбін.**




**У хуткім часе часопісь „Беларускі Піонэр“ будзе выходзіць 2 разы на месяц. Падпісная плата ад гэтага павялічвацца ня будзе. Сьпяшайцеся з падпіскай.**




# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Атрымалі прэмію.

*(М. Старобін).*

14 кастрычніка ў Старобіне адбылася сельска-гаспадарчая выстаўка. Піонэры у якасьці экспонатаў вынесьлі на выстаўку чатыры нумары сваёй насьценнай газэты, за што атрымалі пяць сельска-гаспадарчых бібліотэчак.

Радасна ішлі піонэры да клюбу, нясучы ў сваю бібліотэку кнігі.

**Рыклін Г.**

## Наша праца.

*(Нова-Барысаў, 14 атрад імя Калініна пры фабрыцы „Чырвоная Бярэзіна).*

На працягу 1925-26 г. наш атрад вырас да 80 чалавек.

Бюро колектыву і самы колектыў комсамола парашылі падзяліць атрад на два.

Хутка наш клюб забралі пад кантору і зборы прыходзілася наладжваць на дварэ, а то, часам, і ў сталоўцы фабрыкі.

За лета ўдалося пабыць у лягерах у падшэфным сельсавеце, організаваць там атрад і выпусьціць чатыры нумары насьценнай газэты.

К восені атрад пачаў раскідацца, бо ня было дзе праводзіць працы. Клюба мы яшчэ ня мелі.

Нарэшце, пры дапамозе рабачкому нам удалося атрымаць клюб. Клюб зараз рэмонтуецца і на днях адбудзецца ўрачыстае адчыненьне. Будзем спадзявацца, што праца ізноў наладзіцца.

**„Кіл“.**

## Вучацца жыць колектывам.

*(Асіповіцкая сямёхгодка, Бабруйскай акругі).*

Пры нашай сямёхгодцы для вясковых вучняў маецца агульнае памяшканьне.

У памяшканьні зараз налічваецца каля 40 чалавек. Два пакоі гэтага памяшканьня адведзены пад спальню (хлопцам і дзяўчатам паасобку), а адзін пакой—агульны. Пры памяшканьні існуе кухня, дзе асобная кухарка варыць яду для ўсіх, што жывуць у памяшканьні. На пэўны дзень усім сябрам памяшканьня харчы дастаўляе адзін, за ім другі і г. д.

У памяшканьні ўведзены дзяжурствы. Абавязкі дзяжурнага: вымесьці пакоі, нанасіць вады, дроў, сачыць за асьвятленьнем і парадкам.

Гэткае жыцьцё прывучае вучняў да колектывізму, да сумеснага жыцьця.

Дзяткор **М. Вярнікоўскі.**

## Не працуюць.

*(М. Зембін).*

Пры Зембінскай сямёхгодцы існуе форпост. Але працы ён не праводзіць, амаль, ніякае. Піонэры ў школе не дысцыплінаваны: ня носяць гальштукаў, не аддаюць салюту, на лекцыях, замест таго, каб слухаць ці вучыць заданьне, чытаюць газэты. Форпост, зьвярні на гэта ўвагу і калі піонэры кепска сябе трымаюць, перадавай на савет атраду.

Піонэр 89 атр. **П. Бажок.**

## Паможам бяспрытульным.

Цяжкую спадчыну атрымала Савецкая краіна пасьля многіх год імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны.

У выніку гэтага дзесяткі і сотні тысяч пролетарскіх дзяцей апынуліся без бацькоў, бяз прытулку.

Шмат бяспрытульных ёсьць і ў Беларусі, бо тут адбываліся ўсе войны. Тысячы сялян і рабочых загінулі ад рукі польскага пана, пакінуўшы без усякага прытулку сваіх дзяцей. Кепскае жыцьцё гэтых дзяцей прымушае іх ня толькі жабраваць, але і красьці.

Савецкі ўрад ня можа на гэта глядзець спакойна і прымае ўсе магчымыя крокі да зьнішчэньня бяспрытульнасьці. Масу дзяцей прымаюць ў дзіцячыя дамы, інстытуты соцвыху ды іншыя ўстановы для бяспрытульных.

Але ўсіх дзяцей зьмясьціць у дзіцячых дамох нельга і бяспрытульнасьць можна будзе зьнішчыць тады, калі ўсё грамадзянства, у тым ліку і піонэры, прымуць чынны ўдзел у гэтай справе.

Што могуць зрабіць тут піонэры?

Перш за ўсё трэба памятаць, што самастойнай працы ў гэтай галіне піонэры не вядуць. Яны толькі дапамагаюць органам АНА (аддзелаў народнае асьветы), якія непасрэдна займаюцца барацьбой з бяспрытульнасьцю. Піонэры павінны толькі дапамагаць у выяўленьні бяспрытульных дзяцей і паведамляць аб іх органам АНА; прымаць удзел у працы ячэек „Прыхільнікі дзяцей“; прыцягваць бяспрытульных да атраду і г. д.

Некаторыя атрады гэту працу ўжо праводзяць. Патрэбна, каб уся піонэр-організацыя і кожны піонэр паасобку, паставілі сабе мэтаю ўдзельнічаць у ліквідацыі бяспрытульнасьці. Пры належных адносінах усіх піонэраў да гэтага пытаньня мы дасягнем значных вынікаў.

**І. Зэльцар.**

**ЦІ ВЫПІСАЎ ТЫ НА СЬНЕЖАНЬ М-Ц „БЕЛ. ПІОНЕР?“**

## Два гады працы.

*(М. Капыль, 14 атрад).*

У жніўні месяцы 1924 году у нас залажыўся атрад з 8 чалавек. За два гады існаваньня атрад вырас у 4 атрады, з якіх два працуюць на беларускай мове, а два на яўрэйскай.

Два атрады (14 і 15) маюць зьмену—групы акцябрат, якімі непасрэдна кіруюць піонэры.

За невялікі час існаваньня 14 атрад здолеў падрыхтаваць і перадаць у шэрагі ЛКСМ 19 піонэраў.

Піонэры-комсамольцы выконваюць у атрадзе тую ці іншую працу: адзін зьяўляецца памоцнікам павадыра, другія працуюць у зьвеньнях і г. д.

Бязумоўна, ёсьць піонэры, якія ня могуць служыць прыкладам для іншых, бо самі кураць, лушчаць семячкі і інш.



Капыльскія піонэры і акцябряты.

Гэта кепска адбіваецца на працы атрада. Падрывае працу яшчэ і частая зьмена павадыроў. Напрыклад, за гэты час (2 гады) зьменена дзесяць чалавек. Найбольш за ўсё падрывае працу адсутнасьць памяшканьня для піонэраў. Зьбірацца прыходзіцца дзе папала; газэты, што выпісваюцца, знаходзяцца загэтым у таго ці іншага хлапца на руках ці ў хаце і чытаць іх, найчасьцей, нельга.

Атрад трымае шэфства над піонэрамі вёскі Старое Келі, Капыльскага раёну. У летні час мы часта праводзілі там гутаркі на розныя тэмы, абменьваліся вопытам у працы, ладзілі сваімі сіламі спэктаклі і г. д.

Зварочвае ўвагу атрад і на неорганізаваных дзяцей. Для гэтага наладжвае вечары сувязі, а кожны піонэр, у сваю чаргу, імкнецца ўцягнуць у працу неорганізаванага, зацікавіць яго піонэрскай працай.

**А. Н.**

## Рыхтуем зьмену.

*(Асіповічы, 11 атрад).*

Пры нашым атрадзе організавана група акцябрат. Праца ў групе пачалася з верасьня месяца. Зараз у групе налічваецца 28 чалавек. Сходы групы адбываюцца рэгулярна. Жыцьцё групы высьвятляецца ў газэце атраду—„Зьмена“.

Група акцябрат выпісвае сабе часопісь „Мурзилка“. Для сувязі з атрадам кожны месяц адбываюцца сумесныя сходы. Сходы групы праходзяць жыва, праца вядзецца на беларускай мове. Выжыты тыя кепскія адносіны паміж яўрэйскімі і беларускімі дзецьмі, якія былі дагэтуль. Акцябраты ў школе добра трымаюць сябе і добра вучацца.

**М. В.**






## Зьнішчылі хуліганства.

*(М. Старобін).*

За апошні час у беларускім атрадзе імя „Варашылава“ наглядаліся ненармальныя зьявішчы, як лузаньне семячак, курэньне і г. д. Савет атраду павёў з гэтым барацьбу. „Курыльшчыкі“ і „семячнікі“ былі прыцягнуты да адказнасьці (аднаго піонэра, нават, выключылі з атраду).

Зараз гэтага ўжо не наглядаецца.

**Рыклін Г.**

## Не пасьпеюць азнаёміцца.

*(Зэмбінскі 31 атрад).*

За час двух гадоў існаваньня атраду ячэйка здолела перамяніць 7 павадыроў. Гэта, бязумоўна, адбіваецца на працы атраду, бо павадыр не пасьпее азнаёміцца з атрадам, як яго ўжо мяняюць! Зараз у нас павадыр добры, аддае атраду шмат увагі, а таму пажадана, каб ячэйка перастала надалей мяняць павадыроў.

**Н. Вярбовіч.**

## Шэф, дапамажы!

*(115 атрад, ст. Багушэўск).*

Ня гледзячы на халады, у клюбе 115 атраду не паляць, бо няма дроў. У холадзе заняткаў правесьці нельга. Мясцком чыгуначнікаў ст. Багушэўска павінен дапамагчы сваім падшэфнікам-піонэрам.

**У. Сянькоўскі.**



# На воўку.

*(Малюнак).*

Справа была ў пачатку ліпеня, у ясны цёплы дзень, калі лёгкі ветрык патрошку варушыў калосься жыта, якое шырокімі хвалямі разьлівалася далёка-далёка.

Ішоў я з рэзьвінамі ў руках на сваю палоску ўзяць жмут скошанае канюшыны, каб прынесьці яе дамоў дзеля малога цяляці. Думкі мае былі самыя прыемныя, бо ўчора я быў у цёткі ў гасьцёх, у чужой вёсцы, дзе мяне добра частавалі вялікімі скваркамі, а потым з хлопцамі мы хадзілі ў іх лес каля вёскі. Каля маіх ног цяпер блыталася вяроўка, добра прывязаная да моцнага гарэхавага абруча рэзьвінаў.



Сонейка падбіралася да паўдня і грэла так пяшчотна, што хацелася, каб яно заўжды так сьвяціла. Здалёк наперадзе відаць былі блішчучыя косы на поплаве, калі іх узьнімалі касцы вастрыць.

Вунь, і наша скошаная канюшына.

Падыходжу яшчэ бліжэй і бачу, што на ёй ляжыць дзядзькаў гняды сабака, які ўчора каля мяне лашчыўся. Раптам у мяне зьявілася думка, каб трошкі яго напалохаць. Дзеля гэтага я разгарнуў рэзьвіны, паціханьку падышоў блізенька і раптам яго накрыў. Ён усхапіўся і ўсадзіў галаву з-пад рэзьвінаў у дзірку паверх каля самага абруча й адразу даў цягу ад мяне наперад. Я накруціў на рукі вяроўку і тут-жа ўгледзіў, што Рудзька стаў запрэжаным надта добра, бо ён увесь апынуўся пад сеткаю рэзьвінаў і толькі яго вялізная галава была наверсе.

Цяпер пачалася фацэція!

Апамятаўся я тады, як нашай канюшыны ўжо ня было відаць, а я, трымаючыся за вяроўку, бег так лёгка й шпарка, што пад маімі нагамі толькі мігацела маленькая грэчка. Зараз-жа мы ўскочылі ў авёс, адкуль Рудзька маланкаю вынес мяне на мяжу каля жыта і проста накіраваўся да кустоў. Касцы з косамі кінуліся мне напярэймы, а Рудзька адразу булдыхнуў у роў каля кустоў і хлюпаецца сабе ў гальлі і вадзе.

Раптам чую збоку крычаць: „Воўк! Дзяржы яго!!“ Тут ад страху я выпусьціў з рук вяроўку і адразу так аслабеў, што ледзь ня ўпаў на зямлю.

Касцы ваўка дабілі.

**Ямкар.**

## Самалёт.

Над вербамі, ракітамі,
Высока над зямлёй,
Дарогаю блакітнаю
Імчыцца самалёт.

Ляціць, ляціць абшарамі
З чароўнай пекнатой;
Нямала вёрст пад хмарамі
Пакінуў за сабой.

Ляціць і песьняй дзіўнаю
Абшар напоўніў ён,—
То песьня салаўіная
Пра шчасьце новых дзён.

*Піонэр* **Астапенка.**

**Піонэры і вучні! Організуйце колектыўную падпіску на сваю часопісь „Бел. піонэр“!**




# Чалавек ідзе!..

Старадаўнія часы.

Ці людзі?

Падвячорак з... пацука.

Начлег на дубе.



Гэта было даўно, даўно... Можа мільён, ці, нават, больш гадоў таму назад. Дакладна гэтага сказаць ня можна, але прыблізна навука добра ведае, калі і як гэта было. Ёсьць сьведкі з таго часу: розныя знакі, рэчы, расьліны, косьці, каменьні, нават самыя пласты зямлі, якія досыць праўдзіва могуць расказаць розныя цікавыя гісторыі з гэтага часу. Трэба толькі ўмець іх слухаць...

З такіх помнікаў і склалася тая гісторыя, аб якой тут будзе ісьці рэч.

У тыя часы наша Эўропа мела зусім другі выгляд. Мора займала ўсю сучасную паўднёвую Эўропу і даходзіла да Альпаў, а ў нас да Кацярынаслава і Сталінграда.

Каўкаскія, Крымскія горы, Альпы, Апэніны тады толькі што пачыналі падымацца ад зямлі. Усюды было многа дзейнічаючых вулканаў, нават у такіх мясцох, дзе цяпер аб гэтым ніхто і ня думае, напрыклад, у сучаснай Нямеччыне, Ангельшчыне. Казбэк, Эльбрус выкідвалі агонь, попел, лаву.



. . . дзейнічалі вулканы.

Паступова, павольна, у працягу многіх тысячаў гадоў Эўропа прымала той выгляд, які мае цяпер.

І клімат быў другі, значна цяплейшы, напрыклад, як цяпер у паўночнай Афрыцы.

Адпаведна гэтаму і расьліннасьць была больш разнастайная і багацейшая. Фігавыя і лаўравыя дрэвы расьлі разам з хваёвымі. Разам з дубам, клёнам і вязам падымаліся пальмы, а нашыя бярозы і вербы стаялі побач з міртамі, магноліямі і алеандрамі*).

Уся гэта расьліннасьць складала вялізарныя лясы і займала значнае месца. Насельнікамі гэтых лясоў былі ўсялякія зьвяры, з якіх адна частка дайшла да нашага часу блізка што такімі самымі, як былі, другая зусім зьмянілася, а трэцяя зусім зьнікла, і іх цяпер называюць „дапатопнымі“.

Былі і стэпавыя прасторы, дзе вольна бегалі стэпавыя зьвяры.

Але толькі нідзе ня відаць было сьлядоў чалавека. Ніводнага чалавечага жыльля ня было ва ўсёй краіне. Ніводнага чалавечага слова ня чулася па ўсяму прастору. Ніводнага паляўнічага ня сустракалі зьвяры на сваёй дарозе.



Расьліннасьць была рознастайнай...

Гэта было запраўднае „царства зьвяроў“. Яны адны былі гаспадарамі ўсёй зямлі.

Але вось на аднэй палянцы зьявіўся гурток нейкіх істот, якія ішлі на двух нагах. Можа гэта і ёсьць людзі?

Не, здаецца, гэта малпы. Бо ўсё цела іх пакрыта шэрсьцю. Галава доўгая, роўная, быццам зьверху прыціснутая. Лоба блізка, што зусім няма, а які ёсьць, дык і той вельмі-ж пукаты. Нос таксама прыціснуты, пераносьсе чуць прыкметна. Вочы сядзяць надта глыбока, а косьць над імі выступае наперад, як страха. Падбародак ледзь значыцца, а вялізныя сківіцы высунуліся наперад, як і ў кожнага добрага зьвера.

*) Расьліннасьць цёплых краёў.

Рост іх быў невялічкі, плечы шырокія, а рукі занадта доўгія. Ногі-ж, наадварот—вельмі кароткія.

Адным словам, зусім не такі выгляд, як у нас з вамі.

Але з другога боку, калі добра прыглядзецца, дык і ад малпаў яны значна адрозьніваліся. Перш за ўсё, яны ўвесь час хадзілі і стаялі толькі на двух нагах, і хадзілі цьвёрда, блізка што проста, апіраючыся на зямлю ўсёй падэшвай.

Малпы-ж, як вядома, ніколі так ня ходзяць. Калі ім здараецца прайсьці на двух нагах, дык толькі некалькі крокаў, але і тады яны ступаюць на зямлю толькі бакамі падэшвы, як, напрыклад, ходзяць у нас дзеці з вельмі крывымі нагамі.

Адна толькі хада ўжо паказвала, што гэтыя істоты ні ў якім разе ня могуць быць малпамі.

Але і другія адзнакі таксама аб гэтым сьведчылі. Напрыклад, рукі, хаця-ж яны былі і даўжэйшыя за нашы, але-ж карацейшыя ад рук малпы. Апрача таго, відаць было, што і трымаюцца рукі вальней, чым у малпаў. Калі наша сучасная чалавекападобная малпа ідзе на двух нагах, дык яна рукамі дасягае зямлі і абапіраецца імі перад сабой, закідваючы ногі за рукі. А тутака была зусім другая справа. Відаць было, што гэтыя істоты прывыклі ўжо рабіць рукамі разнастайныя рухі.



Гэта былі першыя людзі...

Далей, калі галава і морда зусім не падобны былі да чалавечых—затое таксама адрозьніваліся і ад малпавых. Хаця-ж лоб быў маленькі, але ўсе-ж такі большы, і галоўнае, прамейшы за лоб малпы.

І, урэшце, самая галоўная адзнака—гэта велічыня чэрапу альбо, праўдзівей сказаць, ёмкасьць яго, дзе зьмяшчаюцца мазгі. Самая разумная і вучоная сучасная малпа мае гэтую ёмкасьць у два разы меншую ад нашага чалавека*).

Такім чынам выходзіць, што перад намі ня малпы, а, значыцца, людзі. І праўды: гэта былі першыя людзі, якім як-ніяк можна было ўжо даць назву чалавека.

Не адразу яны зьявіліся такімі. Міліёны гадоў прайшло, пакуль яны сталі такімі, як мы іх бачым. Таксама, як міліёны гадоў павінны былі прайсьці, пакуль мы зрабіліся такімі, якія мы цяпер.

Доўгі час людзі нічым не адрозьніваліся ад малпаў, а яшчэ раней, і ад другіх зьвяроў. Можа выпадкова іх дзяды папалі ў другія ўмовы жыцьця, дзе прыходзілася больш быць на зямлі, чымсь на дрэвах, дзе рукі іх сталі прывыкаць да другой працы, дзе ім больш прыходзілася папрацаваць мазгамі,—і патолькі іх ужо крыху пачалі адрозьніваць ад другіх.

Доўгія часы гэтыя адзнакі былі вельмі нязначнымі. Але пастунова яны станавіліся ўсё значнейшыя і значнейшыя і, нарэшце, прышоў такі час, калі выразна стала відаць, што гэтыя істоты—не зьвяры.

А калі мы прыпомнім, што на нашых вачох, у працягу малога часу, чалавек можа зусім зьмяніць пароду жывёлаў, паставіўшы іх у другія ўмовы, калі мы зьвернем увагу, што тая самая жывёла і, нават, сам чалавек і цяпер у розных мясцох, пры розных умовах жыцьця, мае зусім другі выгляд і здольнасьці—тады ўсім нам стане ясна, што ў працягу міліёнаў гадоў гэтыя зьмены павінны быць дужа значнымі. Гэта-ж даводзіць нам і навука аб гісторыі чалавека.

*) Сярэдні аб'ём чэрапу сучасных чалавекападобных малпаў—600 куб. сантымэтраў, а ў гэтых істот—1.200 куб. см. Сярэдні аб'ём чэрапу сучасных эўропэйцаў—1.500-1.600 куб. см., а сучасных дзікіх людзей—1.300-1.400 куб. см.

* * *

Гурток складаўся з 25-30 асоб. Тутака былі і жанчыны з дзецьмі на руках і на карку, і падлеткі, і мужчыны рознага ўзросту, у тым ліку адзін стары.

У руках яны нічога ня мелі, нічога ня несьлі. Яны жылі яшчэ таксама, як усе другія жывёлы: вандравалі з месца на месца, шукаючы корму.

Адны выграбалі рукамі нейкія карэньні, другія шукалі на дрэвах плады; трэція стараліся злавіць і знайсьці што-небудзь жывое: чарвяка, жука і г. д.



Гэта было сапраўднае „царства зьвяроў“.

Нялёгка было папасьвіцца такім чынам. Шмат часу трацілася на гэты падвячорак. І ніводным словам яны яшчэ не перакінуліся паміж сабой.

Пасьля мала-па-малу сталі зьбірацца на палянку, каб адпачыць. Усеўшыся на карачкі, яні моўчкі глядзелі наперад і, здаецца, ні на што не зварачалі ўвагі. Ціха было каля іх. Толькі дзеці гуляючы часам бурчэлі. Ад дарослых-жа таксама ня чуваць было аніводнага слова.

Ці-ж яны нямыя, ці што?

Не, не нямыя яны, але... ня ўмеюць яшчэ гаварыць.

І нічога дзіўнага ў гэтым няма. Мы ведаем, што малыя дзеці не адразу пачынаюць гаварыць. А калі пачынаюць, дык толькі затым, што ўвесь час каля сябе чуюць гаворку. А каб яны ні ад кога ня чулі аніводнага слова, тады і ня ведалі-б мовы.

Ад каго-ж мог чуць мову першы чалавек? Значыцца, ён і ня мог навучыцца. Ды каб ён цяпер і пачуў мову, ён усёроўна цяпер яшчэ ня мог-бы навучыцца, бо язык яго яшчэ ня прыстасаваны да гэтага, затым, што ніколі не гаварыў.

Праўда, некалькі слоў, калі магчыма так назваць некаторыя іхнія гукі—яны ведалі. Напрыклад, яны добра ведалі слова „Іха“, якое звычайна вымаўляў правадыр, калі трэба было сабрацца ўсім разам і ісьці далей, альбо наогул зьвярнуць увагу на што-небудзь.

Каб перавесьці гэтае слова на нашу мову, дык яно азначала-б разам шмат паняцьцяў, напрыклад: „Увага. Сюды. Зьбірайцеся. Глядзі. Ідзем. Будзьце асьцярожны. Слухайце. Стой. Пачакайце. Цішэй“.

* * *

Сонца ласкава асьвятляла палянку. Людзі спакойна адпачывалі і, здаецца, адчувалі сябе прыемна. Дзеці бегалі, гулялі. Маткі даглядалі сваіх маленькіх дзяцей, выбіралі з шэрсьці трэсачкі, альбо яшчэ што.

Але дзіўная рэч: усе яны чамусьці былі нейкія сумныя. За ўвесь час ніхто з іх яшчэ ні разу ня ўсьміхнуўся. Нават маткі песьцілі сваіх дзяцей неяк сурова. А хлопчыкі бегалі, куляліся, быццам выконвалі нейкую прыемную працу. А разам з тым відаць было, што яны адчуваюць сябе досыць добра.

Што такое з усімі імі здарылася?

Нічога. Проста яны яшчэ ня ўмелі сьмяяцца.

Умовы іх жыцьця былі такія, што вельмі мала было прычын, якія-б выклікалі ўсьмешку, якія-б давалі магчымасьць для разьвіцьця гэтае здольнасьці.

І зразумела: сярод лясных жыхароў яны былі самыя слабыя, самыя мізэрныя. Яны не маглі памерацца сілай з вялікімі зьвярмі. Ня мелі тых зубоў і кіпцюроў, якія маюць драпежныя зьвяры. Нават бегаць не маглі так хутка, як бегаюць некаторыя жывёлы.

Кожны зьвер, які цяпер і духу чалавечага баіцца, тады мог скрыўдзіць кожнага чалавека.

А як было пракарміцца, пражыць?..

Не да сьмеху тут...

А здольнасьць смяяцца, як і ўсе другія здольнасьці, не звалілася сама з неба. На

гэта таксама патрэбны і доўгі час і адпаведныя ўмовы.

Не дарма-ж да нашага часу аніводная жывёла не навучылася яшчэ сьмяяцца.

Сярод гуртка некалькі адзначаўся адзін мужчына, трохі вышэйшага росту, відаць, дужэйшы за другіх і, нават, здавалася, як быццам з твару разумнейшы. Гэта быў правадыр гуртка.

Ніхто яго, разумееццa, ня выбіраў, ня прызначаў. Склалася гэта само праз сябе ў тыя часы, калі ён у бядзе першы кідаўся на ворага, калі ён першы прымячаў і папярэджваў аб небясьпецы, калі ён клапаціўся аб карысьці дзеля ўсяго гуртка.

Ён стаяў абапёршыся аб дрэва і, здаецца, думаў аб нечым.

Але ці-ж мог ён думаць наогул так, як мы гэта сабе ўяўляем?

Вядома, не! Калі мы прыслухаемся да сябе, мы заўважым, што нашу думку выклікаюць паняцьці, якія азначаюцца словамі. Мы як быццам у думцы гаворым.

А калі ён ня ўмеў гаварыць значыцца, ня ўмеў і думаць.

У яго галаве мільгалі нейкія няясныя вобразы, але зьвязаць іх у адну складную думку ён ня мог.

Вось каля яго пакруціўся дванаццацігадовы хлопчык, яго родны сын. Правадыр паглядзеў на яго, у вачох нешта засьвіцілася, як быццам ён хацеў нешта прыпомніць, але зараз-жа гэта прайшло, і бацька так і ня ведаў, што гэта яго сын.

Раптам у лесе нешта зашуршэла, і на палянку выскачылі дзьве казы. Угледзіўшы чужых, яны спыніліся, быццам зьдзіўленыя, і ў той самы момант некалькі мужчын кінуліся да іх. Але рукі толькі сьлізганулі па сьпіне—і жывёлы зьніклі. Нялёгка было выходзіць на паляваньне нашым людзям з голымі рукамі...

...выскачыла дзьве казы.

Такая няўдача, відаць, засмуціла іх. Хоць твары іх і нельга было назваць ясна выразнымі, але-ж і на іх адбілася нейкае расчараваньне.

Разам з тым прачнуўся голад, і яны ізноў пашлі шукаць спажывы. На гэты раз некаторыя шчасьліўцы знашлі нават птушынае гняздо з яечкамі і злавілі крата.

На адну жанчыну натрапіў нейкі зьвярок, падобны да нашага пацука. Угледзіўшы небясьпеку, ён скруціўся ў вузел і прыкінуўся мёртвым. Але гэта не памагло. Жанчына ўсёроўна ўхапілася за яго, адразу разарвала і пачала есьці. Зубамі яна адрывала кавалкі і давала свайму дзіцяці.

Гэта быў так званы „сумчаты“ пацук, які яшчэ і цяпер жыве ў паўднёвай Амэрыцы, у Аўстраліі. Парода сумчатых зьяўляецца аднэй з самых старадаўніх і яшчэ цяпер захавала некалькі відаў, да якіх належыць, напрыклад, вядомы аўстралійскі кенгуру. Усе яны маюць тую адзнаку, што самкі данашваюць сваіх дзяцей у асобнай торбачцы, якая мае выгляд кішэні і знаходзіцца на грудзёх жывёлы.



Гэта быў „сумчаты“ пацук.

Тым часам надыходзіў вечар. Прыходзілася падумаць аб начлезе. Ня першы раз знаходзіліся людзі ў такім становішчы, і яны добра ведалі, што самым бясьпечным месцам у гэтым зьяўляюцца дрэвы.

Адзін за другім пачалі яны лезьці на шырокі дуб. У гушчыні яго знайшлося досыць шмат выгодных месцаў, нават для жанчын з дзецьмі.

Некаторы час чуўся трэск і шуршэньне сярод галін, потым усё сьціхла. Людзі „палеглі“ спаць.

Ішла ноч, цёмная, парная. У лесе пачалося другое, начное жыцьцё. Вось прарэзьліва крыкнула нейкая птушка; вось зазьвінелі камары і мошкі. Дзесьці залаяла гіэна *) і здалёку данёсься рык льва.

Потым стаў набліжацца нейкі страшэнны шум, як быццам дзесьці страляюць гарматы. Вось шум бліжэй і бліжэй. Можна ўжо сказаць, што гэта ломяцца дрэвы і, відаць, дрэвы не малыя. Набліжалася нешта жудаснае; чулася нейкае цяжкае тухтаньне, зямля дрыжэла ..

На дубе ўстрывожыліся, заварушыліся.

Вось грукнула бліжэйшае дрэва і верхавіна яго павалілася проста на дуб. Падняліся крыкі, пісканіна,—і некалькі чалавек звалілася на зямлю.

Тыя, якія зваліліся, толькі ўгледзілі, што міма іх прашлі нейкія жывёлы, падобныя да гораў...

**Янка Маўр.**

(Працяг будзе).

**АД РЭДАКЦЫІ**: Зьмяшчаючы цэлы шэраг апавяданьняў аб жыцьці першабытнага чалавека і яго паступовым разьвіцьці, рэдакцыя просіць чытачоў прысылаць свае водзывы аб тым, як падабаюцца чытачом гэтыя апавяданьні і якія пытаньні іх больш цікавяць, што-б магло быць закранута ў творы.

*) Дзікі драпежны зьвер.

# КУТОК РАДЗІО

Я. К.

## Як самому зрабіць радзіопрыёмнік.

Прыёмную радзіостанцыю, г. з. станцыю, пры дапамозе якой можна толькі прымаць радзіосыгналы і слухаць радзіоканцэрты, кожны можа зрабіць сам сабе. Радзіопрыёмнік зьяўляецца настолькі простай штукай, што яго лёгка зрабіць, ня маючы для гэтага нават асаблівых інструмантаў. Страты на яго таксама патрэбны зусім нязначныя.

Радзіопрыёмнікі робяцца розных формаў: больш складаныя, якія могуць прымаць перадачы з далёкіх станцый і менш складаныя, якія здольны прымаць перадачы з станцый ад нас блізкіх.

У гэтым артыкуле я апішу пабудову двох простых радзіопрыёмнікаў, праверанах на практыцы. Першы з іх мы рабілі з дзецьмі ў Маскве [1]) Трэба сказаць, што передача праз яго чутна была ня толькі з самай Масквы, а і за дзесяткі вёрст ад Масквы.

Цяпер пярэйдзем да апісаньня паасобных частак радзіопрыёмніка і як іх можна зрабіць.

### Антэна.

Радзіосыгналы, што пасылаюцца якой небудзь вялікай передаючай станцыяй, могуць быць злоўлены *антэнай* любой прыёмнай станцыі. Антэна ўяўляе з сябе некалькі доўгіх медных драцін, якія прымацоўваюцца ў нацягнутым выглядзе высока над зямлёй. Дрот можна ўзяць стары медны тэлеграфны, або купіць медны голы (без *абменьні*) дрот. Таўшчыні трэба каб ён быў хоць-бы такой, якую ўжываюць для праводкі электрычных званкоў.

Калі дрот знойдзены, бярэце адну або лепш дзьве драціны (два *праменьні*) даўжынёю 50-100 мэтраў і складвайце іх на адлегласьці $1-1\frac{1}{2}$ мэтры адна ад другой. Антэна злучаецца асобным дротам (уводам) з радзіопрыёмнікам.



Мал 1.

Праменьні антэны нацягваюцца на знарочыстых мачтах (скажам, між хатай і дрэвам, як паказана на мал. № 1). Трэба зрабіць так, каб праменьні антэны і ўвод былі ізаляваны (ня злучаны) ад зямлі, каб яны не дакраналіся стрэхаў, дрэваў. Дрот антэны злучаецца з рэйкамі і тымі прадметамі, да якіх прымацоўваецца, пры дапамозе *ролікаў* (мал. № 2). Гэта робіцца для таго, каб адгарадзіць стык між дрэвам, скажам, і дротам антэны. Як гэта зрабіць— паказана на м. № 2. Дрот прымацоўваецца да роліка, а ролік вяроўкай да мачты.



Мал. 2.



Мал. 3.

У горадзе можна і не рабіць такой паветранай антэны, а скарыстаць замест яе провад электрычнасьці. Трэба толькі да аднаго проваду далучыць штэпсалі.

### Дэтэктар.

Дэтэктар уяўляе з сябе варстатчык (мал. № 3), у якім тонкі сталёвы дроцік (напр., струна), скручаны спіральлю, упіраецца ў кусочак валавянага блеску. Гэткае волава можна знайсьці ў любой школьнай колекцыі. Але лепш усяго валавяны блеск зрабіць самому. Для гэтага трэба ўзяць кусок волава і напілаваць з яго пілавіньня. 20 грамаў такога пілавіньня зьмяшаць з 5-ю грамамі серкавага колеру (парашок, які можна купіць у любой аптэцы). Мешаніну гэту трэба насыпаць у шкляную трубку і награваць на агні (на прымусе). Спачатку награваюць слаба, каб распускалася серка, пасьля награваць мешаніну дачырвона. Пасьля гэтага даюць магчымасьць астыць гэтай мешаніне, разьбіваюць трубку і адтуль вымаюць бліскучы крыштальвалавянага колеру. Валавяны блеск шчыльна ўкладаецца ў медную шкляначку. Такую шкляначку можна зрабіць з пустога патрона ад рэвольвера. Верхняя частка патрона адпілоўваецца. Валавяны блеск лепш усяго прыпаіць у патроне. Для гэтага ў яго наліваюць расплаўленае волава і, пакуль яно не застыла, кладуць прыгатаваны раней блеск. Ніжнюю частку варстату складаюць дзьве дошчачкі з фанэры. У верхняй дошчачцы прарэзваецца дзірка для патрона. Патрон прымацоўваецца нярухома. Падпорка (частка, якая злучае дрот з валавяным блескам) робіцца з тоўстага дроту, або меднай дошчачкі.

### Самаіндукцыя.

Для пабудовы самаіндукцыі бяруць 80-100 мэтраў меднага ізаляванага дроту, які павінен быць, прыблізна, у два разы танчэйшым ад дроту для званкоў. Гэты дрот наматваюць на шпульку, якая робіцца так: з фанэры вырэзваюць дзьве квадратовай формы дошчачкі, якія павінны быць з доўгага боку разьмерам у 10 см. Гэтыя дзьве дошчачкі прыклейваюцца да дзеравянага калясца, які мае таў-

[1]) Апісаньне яго мы і зьмяшчаем у гэтым нумары. Апісаньне радзіопрыёмніка другога тыпу зьмесьцім у чарговым нумары.

шчыню ў 2 см. і дыямэтр у 4 см. (мал. № 4). На верхнім баку шпулькі малюецца акружына, ля якой пракручваецца 12 дзірак, разьмешчаныя на роўнай адлегласьці адна ад другой. Поруч з дзіркамі забіваюць (толькі не да самага канца) медныя цьвічкі з шырокімі галоўкамі (плешкамі). Гэтыя цьвічкі будуць служыць *кантактамі*. Прыблізна, праз кожныя 8-9 мэтраў робіцца вывад. Дзеля гэтага праз дзірку ў дошчацы пратыкаецца пятля дроціку (разрэзваць ня трэба), абчышчаецца ад абмоткі і далучаецца да цьвіка; пасьля гэтага цьвік убіваецца назусім. Астатні канец дроціка прымацоўваецца да 12 кантакта. Наматваць патрэбна увесь час усё ў адзін бок.



Мал. 4.

У сярэдзіне дошчачкі пры дапамозе вінціка прымацоўваецца палоска з медзі або бляхі; гэта—падзьвіжны кантакт. Ён павінен быць такой даўжыні, каб мог дакранацца галовак цьвікоў. Дакранацца ён павінен шчыльна, націскаючы на галоўку цьвіка.

### Кондэнсатары.

Іх робяць два. З валавянай паперы—станіолю (абвёртка ад чаю, шакаладу)—трэба нарэзаць 6 штук розных лісьцікаў разьмерам 4×10 см. Пасьля нарэзаць з тугой папяроснай паперы (можна і з тонкай паперы для пісаньня) 7 лісьцікаў разьмерам $4^1/_2 \times 9^1/_2$ і кожны лісток патрымаць некаторы час у гарачым парафіне. Лісьцікаў можна нарэзаць і з правошчанай кампрэснай паперы.

Калі лісьцікі станіолю і паперы нарэзаны, пачынаюць складаць кондэнсатар. Бярэцца адзін ліст парафінаванай паперы і на яго кладзецца пасярэдзіне лісьцік станіолю. Адзін край гэтага лісьціка на $^1/_2$ см. высоўваецца ад першага парафінаванага лісьціка (мал. № 5). Станіоль накрываецца лісьцікам парафінаванай паперы, на якую ізноў кладуць 2-гі лісьцік станіолю, але край гэтага другога лісьціка станіолю высоўваецца даўжэй на $^1/_2$ см. ад першага лісьціка (парафінаванага) ужо з процілеглага боку. Гэтак складваюцца ўсе станіолевыя лісьцікі пераклодзеныя парафінаванай паперай, прыгэтым трэба адзначыць, што канцы ўсіх цотных лісьцікаў станіолю будуць вытыркаць з аднаго боку, а няцотных—з другога. Лісьцікі станіолю злучаюцца між сабой выпушчанымі канцамі, але нідзе не павінны злучацца між сабой няцотныя з цотнымі лісьцікамі.



Мал. 5.



Мал 6.

Зьверху і зьнізу зложанага кондэнсатара накладаюцца два лісьцікі кардону такіх-жа вымераў, як і парафінаваная папера. Усе цотныя лісьцікі станіолю загінаюцца, таксама і няцотныя—з другога боку кондэнсатара.

Пасьля гэтага вырэзваюць з медзі або тоўстай бляхі дзьве палоскі даўжынёй у $4^1/_2$ см., а шырынёй - 2 см. У сярэдзіне палосак з аднаго боку робяцца выразы (мал. № 6). Палоскі згінаюцца ўдоўж і імі шчыльна заціскаюць кондэнсатар. Надрэзаныя часткі адгінаюцца і ў іх прабіваюцца дзірачкі для прымацаваньня дроту. Такім чынам адзін зажым будзе злучаны з цотнымі лісьцікамі станіолю, а другі—з няцотнымі. Вельмі важна пры зборцы наглядаць за тым, каб на парафінаваную паперу не папалася чаго-небудзь з сьмецьця, якое можа сапсаваць вам усю справу.

Другі кондэнсатар падрыхтоўваецца гэтак-жа сама, толькі станіолевых лісьцікаў бярэцца ня 6, а 12 штук.



Мал. 7.

### Зборка прыёмніка.

Шпульку самаіндукцыі кладуць у скрынку адпаведнага вымеру, на дно скрынкі кладуцца поруч два кондэнсатары. На накрыўцы самаіндукцыі ў кутку прымацоўваецца дэтэктар. У сьценах скрынкі робяцца 4 клемы, г. зн. проста ўвінчаны кароткія медныя вінты з шырокай галоўкай. Да двох клемаў, якія адзначаны літарай *Т*, прымацоўваецца звычайная тэлефонная трубка (без мікрафона), да клемы *А* прымацоўваецца антэна, да клемы *З*—зямля.

На мал. 7 паказаны выгляд прыёмніка зьверху. Пунктірам адзначаны кондэнсатары і шпулька самаіндукцыі. У левым верхнім куце—дэтэктар.

Злучыць з зямлёю або „зазямліць“ можна такім чынам: далучыць провад да вадаправоднага крана або да вадзянога апалу. У тым месцы, дзе злучаецца провад з кранам, трубу трэба абчысьціць. Калі-ж нельга зрабіць такім парадкам, дык зазямляюць, апускаючы ў студню ліст бляхі з прымацаваным да яго дротам, або закапваюць такі ліст у сырую зямлю глыбінёй на 1 мэтр, або забіваюць у зямлю кусок вадаправоднай трубы даўжынёй на 1 мэтр.

Часткі прыёмніка злучаюцца так, як гэта паказана на мал. 8. Антэна злучаецца з адным зажымам 1-га кондэнсатара (меншага). Другі зажым гэтага кондэнсатара злучаецца з падзьвіжным кантактам самаіндукцыі. Канец самаіндукцыі (12 кантакт) злучаецца з зямлёй. Пачатковы канец самаіндукцыі (першы кантакт) злучаецца з дэтэктарам, напр., з патронам (можна і з падпоркай), а падпорка злучаецца з зажымам *2*-га кондэнсатара; другі зажым гэтага кондэнсатара злучаецца з зямлёй. Тэлефонныя клемы злучаюцца з зажымамі 2-га кондэксатара.




Мал. 8.

### Наладжаньне прыёмніка.

Злучыўшы клемы з антэнай зямлёй і далучыўшы тэлефонную трубку, ставяць падзьвіжны падважнік (рычажок) самаіндукцыі, прыкладна, на 8-мы або 9-ы кантакт і рэгулююць сталёвую спрунжынку дэтэктара, не адымаючы тэлефона ад вуха. Спрунжынку перастаўляюць у розныя пункты валавянага блеску, пакуль ня будуць выразна чутнымі радзіосыгналы. Такім чынам рэгулюючы, знаходзяць той пункт, у якім радзіосыгналы чутны больш выразна.

Калі нічога ня чуваць, дык гэта значыць, што не працуе радзіостанцыя, якая перадае радзіо, або штонебудзь няспраўна ў прыёмніку.

У часе навальніцы небясьпечна карыстацца прыёмнікам. Провад, які ідзе ад антэны, павінен быць заўсёды злучаным з зямлёй у той час, калі не працуе прыёмнік.

**Н. Булатаў.**

## Паштовая скрынка.

**Варшалу, М.** Апавяданьне „Добра зрабіла“ напісаць табе не ўдалося так, як ты яго задумаў і як патрэбна было. Тэма, бязумоўна, узята досыць цікавая. Шкада толькі, што заместа апавяданьня вышла корэспондэнцыя. Вось чаму рэдакцыя і не зьмяшчае гэтага апавяданьня. Некаторыя з допісаў будуць выкарыстаны.

**Таўбіну, Ю.** З надасланых табой вершаў адзін—„Гэта нам“—зьмяшчаем. Іншыя слабыя. Прыклад:

„Я сягоньня ня сумую,
Ня сумую—бо ня варта...
Бэ назаўтра зноў пайду я
Грызьць граніт навукі ўпарта“.

Нам здаецца, „грызьці граніт навукі“ можна як бяз суму, так і бяз той радасьці, якую ты хочаш навязаць сабе. Гэта простае мудраваньне, якое ня мае ў сябе ніякай поэтычнасьці і, хоць-бы, сьвежай, ня зьбітай у розных відах і формах думкі. У другім вершы—„Піонэрскае“ поруч з поэтычнымі і даволі ўдалымі па думцы і зьместу радкамі маюцца й такія радкі:

„Вецер, вецер, сын палёў,
Пойдзем з намі ў ногу!
Пакажы нам пэўны шлях,
Пэўную дарогу“.

Піонэры сваю дарогу самі добра ведаюць. Такі-ж праваднік, як вецер, можа быць і зусім небясьпечным.

У далейшай працы старайся больш крышталізаваць свае вершы ўсебакова. Бо мала таго, каб акрыліць верш рыфмамі і лічыць, што ён ужо можа й ляцець у сьвет.

**Федаровічу, С.** З прысланага матар'ялу допіс „Аб акцябратах“ надрукуем; верш ня пойдзе.

**Хадыку Кастусю.** Верш твой друкаваць ня будзем. Гэты верш, нават, ніштo-б сабе і напісаны, але тэма ўзята табой няўдалая: даюцца адны лёзунгі, што павінны рабіць дзеці. У другім разе старайся браць такія тэмы, якія-малявалі-б самую работу дзяцей. Пішы больш.

**Сапіру, І.** Допіс „Акцябраты працуюць“ зьмесьцім у чарговым нумары.

**Аўхімаву, А.** Раім табе лепш паставіць пытаньне аб рэдколегіі на савеце атраду, дзе і вырашаць яго. Друкаваць у часопісі аб гэтым нязначным факце нявартa, бо, наўрад, ці ваша рэдколегія і ад гэтага прачнецца: яе трэба раскатурхаць панастаяшчаму.

**Казлоўскаму, В.** Тваё апошняе апавяданьне друкаваць ня будзем. Яно даволі слаба апрацавана. Апрача гэтага тэму ты ўзяў даволі цяжкую, не па сваёй сіле. Шлі новыя апавяданьні.

**Біленко, З.** „З дзевятым кастрычнікам наперад“—спазьнілася. Шлі другія матар'ялы: высьвятляй вопыт працы вашых піонэраў у сям'і, у школе, сярод неорганізаваных дзяцей і інш.

**Вярбовічу, Н.** Літаратурны матар'ял, прысланы табой, друкавацца ня будзе. Тэмы, праўда, узяты табой даволі цікавыя і глыбокія, але ўся бяда ў тым, што ты не аўладаў яшчэ тэхнікай пісаньня. Лепш, браця, павучыся яшчэ, больш пачытай прыгожай літаратуры, гэта дапаможа табе разабрацца ў тэхніцы і пабудове твораў. Допіс аб правядзеньні сьвята спазьніўся.

**Айзенштату, Б.** Твой „Васька піонэр“ шмат чаго украў у „Красношейки“ Асеева. Напісаны зусім няўдалым вершам. Пішы лепш допісы.

**Дзьмітрачэнку, Я.** Верш ня пойдзе. Слаба, браця. Аднымі выняткамі з законаў і звычаяў верша не напішаш. Няма мастацкасьці, няма шчырасьці, а бяэ гэтага верш атрымліваецца сухі, нудны і няцікавы. Ды й сэнсу ніякага ня дойдзеш у такім вершы:

...Нашы песьні ў прасторах ліюцца,
Маладых камунальных тварцоў.
Мы на зьмену ідзем комсамольцам.
Піонэр—пакаленьне пяўцоў...

Вось бачыш сам, што такія радкі вершам назваць нельга. Пішы лепш пакуль што допісы. „Жыцьцё вясковых піонэраў“ скарыстаем.

**Старасьценкаву, Я.** Рэдакцыя зацікавілася тваім допісам „На ніткy ад сьмерці“. Толькі-ж вось пажадана, каб ты паведаміў, ці праўда гэта, дзе і з кім гэта было, бо калі ты выдумаў такую рэч, дык яна ня цікавая.

**Варшалу, М.** Частку допісаў скарыстаем.

Усім іншым дапісчыкам, допісы якіх ня зьмешчаны ў часопісі, адкажам у чарговым нумары.

Выданьне **НКА БССР.**

Рэдактар—**рэдколегія.**




## Як паставіць? *)

У час грамадзянскае вайны 9 чырвонаармейцаў папаліся ў палон белым. Афіцэр загадаў расстраляць з іх кожнага дзевятага па чарзе, а апошняга вызваліць. Той, каму была даручана гэтая справа, захацеў выратаваць аднаго чырвонаармейца і паставіў яго так, што ён застаўся апошнім. Каторым ён яго паставіў?




## Як адным махам выразаць пяцёхкутную зорку.

Мал. 1. Узяць кавалак паперы квадратовай формы і скласьці яго напалам па сярэдзіне (па лініі **АВ**).

Мал. 2. Складзеную паперу ўзяць за левы верхні кут (**А**) і загнуць яго да лініі **БВ**, крыху вышэй кута **В**.



Мал. 1.



Мал. 2.



Мал. 3.



Мал. 4.

Мал. 3. Потым кут **Б** адгарнуць назад роўна з лініяй **ГА**.

*) Усе задачы падабраў вучань **Фёдараў.**

Мал. 4. Тады ўзяцца за куты **Д** і **А** і скласьці іх зноў назад, каб лінія **ГА** пашла па лініі **ГД**.

Адрэзаць па лініі **ЖА**—і зорка гатова.

Чым бліжэй будзе **Ж** да **Г**, тым вастрэйшымі будуць канцы.




## Хітрая задача.

Два пастухі варылі кашу ў полі. Адзін даў дзеля яе 1 фунт грэчкі, а другі 2 фунты. Калі яны ўзяліся есьці, падышоў падарожны і папрасіў падзяліцца з ім. Пасьля яды падарожны заплаціў ім 15 кап. і пашоў далей. Пастухі пачалі дзяліць грошы і пасварыліся. Рыгор казаў, што трэба падзяліць напалам, а Пятрусь, што яму трэба 10, а Рыгору 5 кап.

Як-жа запраўды трэба падзяліць грошы?

## Падбярэце літары.

Паставіць у гэтым вершы замест кропак літары.

Сядзяць . аны, як страхі тыя,
А . іны важныя такія.
Усе няпрыступны і ўсе г...ы,
Рашучы ..гляды і цьвёрды.
І ў кожным слове, ў.....руху
Відаць .... вага да псяюха.

**(з Якуба Коласа).**

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

НА ІЛЮСТРАВАНУЮ
ДЗІЦЯЧУЮ ЧАСОПІСЬ

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ на сваіх старонках зьмяшчае самыя рознастайныя матар'ялы, цікавыя для піонэраў, школьнікаў і ўсіх дзяцей.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ уводзіць шэраг новых, дагэтуль ня друкованых, матар'ялаў з жыцьця людзей і прыроды. Багата высьвятляецца жыцьцё дзяцей у школах і атрадах.

УВЕСЬ ЛЕПШЫ МАТАР'ЯЛ з дзіцячай літаратуры вы знойдзеце толькі ў часопісі „Беларускі Піонэр“, якая арганізавала вакол сябе ўсіх найвыдатнейшых старэйшых і маладзейшых пісьменьнікаў Беларусі.

КОЖНЫ ПІОНЭР і ВУЧАНЬ павінен чытаць, выпісваць і быць організатарам колектыўнай падпіскі на „Беларускі Піонэр“, часопісь усіх дзяцей.

## КОШТ ЧАСОПІСІ ЗЬНІЗІЎСЯ

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 м-ц | 15 кап. | На 6 м-цаў | 90 кап. |
| „ 3 м-цы | 45 кап. | „ 1 год | 1 р. 80 кап. |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштова-тэлеграфных установах БССР, упаўнаважанымі агентамі па збору падпіскі выд. „Чырвоная Зьмена“, у Менску—Савецкая 63, Кантора газ. „Звезда“.